# Самапомач Гаспадарства

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

Год VII. Вільня, Ліпень 1938 г. № 7 (81).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Насіць самадзелы ці прадаваць?

Самадзел у шырэйшым значэньні слова, гэта ўсё тое, што прыгатаўляецца хатнім спосабам у гаспадарскай сям'і. Звычайна аднак гэтым словам разумеюць вырабы ткацкія, незалежна ад таго ці яны вытканы з лёну ці з воўны.

Пагляд на вартасьць самадзелаў за апошнюю чэцьверць стагодзьдзя вельмі зьмяніўся. Падчас калі прад вайной, асабліва ў аколіцах прыгарадзкіх, ужываньне вопраткі з самадзелу, у параўнаньні з „крамніной", уважалася за нешта менш вартаснае, дык сягоньня паняцьці перасунуліся ў бок процілежны. Меставае жыхарства і інтэлігенцыя пачынаюць ахвотна апранацца ў самадзел, а вёска — захлынаецца фабрычнай тандэтай ці „крамніной".

Што сталася? Дзе месца для беларускага селяніна - земляроба, каторага ўсё гэта беспасярэдна датыча?

Разважма папарадку. Вопратка з самадзелу, хоць на разе можа і даражэй абходзіцца, то аднак лепш і даўжэй носіцца.— Нястройна выглядае? Але-ж гэта ўжо няістотная справа прывычкі. І таму, хто ўмее самастойна думаць, той патрапіць і ў самадзелавай вопратцы знайсьці такое хараство, якога ня мае крамніна. Ясна, што на гэта здольна перад усім інтэлігенцыя, а за ёй і больш рухлівае насельніцтва места; і таму яны якраз сягоньня ўжо ахвотна носяць самадзелы. А вёска? Яна з часам пойдзе сьледам места, калі самедзел станецца „модай".

Гэта так-бы сказаць натуральны ход справы. Сягоньня аднак нічога ў нас самапасам ня йдзе. Мінулі часы свабоды і для самадзелаў, каторымі кіруюць і аб каторых яшчэ больш гавораць розныя „апякунчыя" арганізацыі. Ладзяць яны зьезды, выстаўкі, кірмашы — ўсё быццам паводле думкі, што *«зямля наша павінна нас выкарміць і апрануць»*.

У практыцы гэта аднак выглядае йнакш. А найцікавей тое, што самі быццам заахвочаныя прадуцэнты самадзелу далей стала апранаюцца ў крамніну. І гэта не бяз прычыны, бо ўся прапаганда „апякунчых" арганізацыяў накіравана не на зацікаўленьне да ўжываньня сваіх-жа самадзелаў як прадукту роднае зямлі, а на тое, каб гэтыя самадзелы прадаваць на ўжытак каго іншага. А гэта вялікая розьніца, бо самадзел, які меўся і мог быць узгадаваўцам гаспадарскае ініцыятывы і творчае веры нашага чалавека ў яго собскія сілы, стаўся толькі йшчэ адным дакучлівым спосабам выкарыстываньня працоўных рук нашай вёскі. Што з таго, што чалавек вырабіць сапраўды харошую рэч, калі ён ня можа сам сабе пазволіць ею карыстацца, бо яна яму за дарагая?! Выглядае гэта на нейкую недарэчнасьць. І ўсё-ж гэта праўда.

Які тады выхад? Ці наш чалавек мае ад самадзелаў уцякаць, самадзелы пакідаць?

Ніколі на сьвеце! Самадзелы гэта неадлучная сучастка душы нашага беларускага перад усім селяніна, гэта наш народны скарб і пазбывацца яго ня можна. Наадварот, самадзелы трэба выrabляць, насіць і чынна іх шанаваць. Пры працы гаспадарскай нішто замяніць самадзелы не патрапіць. А калі сягоньня ён недаступны для самага

# Пасьляжніўныя клопаты

Ёсьць шмат спраў, аб якіх трэба памятаць цяпер пры выхадзе ў поле з сярпом і касой. Успомнім тут аб некаторых з іх.

Людзі хутка забываюцца, што ім балела йшчэ ўчора. Але нашы гаспадары-земляробы хіба ўсё-ж памятаюць яшчэ сёлетнюю сухую вясну і нястачу пашы з гэтае прычыны; і таму можа лягчэй зразумеюць патрэбу захаваньня ў глебе належнай ей вогкасьці. Паможа гэта належна вырабіць глебу на год наступны, ўтрымаць яе чыста ад пустазельля і мясцамі выкарыстаць пад пасеў яшчэ сёлета.

У чым справа?

А вот у чым: Як толькі здыймаецца збожа з поля, дык уся зямля раптам становіцца больш ці менш г о л а й, а вецер з сонцам пачынае яе сушыць. Лягчэйшыя грунты пачынаюць ад гэтага рассыпацца а цяжэйшыя — ссыхацца, часта на камень. І адно і другое для гаспадара ёсьць стратай, якой ён ня бачыць з тае толькі прычыны, што рахуе такое аржышча пасьбішчам для свае згаладалае жывёлы. Якое гэта пасьбішча на пустазельлі, дык лепш не ўспамінаць, але прывычка сваё робіць і чалавек ад яе не адступае, хоць-бы і разумеў сваю абмылку. — І гэтыя колькі слоў за слабыя, каб пераканаць кожнага. Але трапяцца яны можа і да чалавека шукаючага новых, лепшых дарог жыцьця. Дык для гэтых людзей гэткая вось рада.

Зрабеце пробу хоць на часьціне поля і пераканайцеся. Проба гэткая: Як толькі сажнецца збожа, не пакідайце **аржышча** вольным нават паўдня, але **зараз-жа** яго **мелка** (на далонь) **ўзарэце** і лёгкай бараной **прыбарануйце.**

Гэта адна работа і па ей можна ўжо чакаць восені. Калі аднак у гаспадарцы адчуваецца недастатак корму для жывёлы ці гною (а гэтага за шмат ніколі ня бывае), дык зрабеце гэтак: засейце гэтак прыгатаваную ніўку якой-

---

прадуцента, дык гэта толькі рэзультатаднастароньняй „апекі“, якая „аб нас судзіць бяз нас“. Дзеля гэтага, побач з працай над тэхнічным дасканаленьнем вырабу самадзелаў, ня можна забывацца і аб значэньні выхаваўчым іх. Бо трэба ведаць, што самадзелы, як вольная галіна працы, даюць нам сілу, а самадзелы ў „апецы“ з месца тармозяць размах працы і на заўсёды трымаюць вытворцу ў залежнасьці ад багатых — і чужых — набыўцоў.

---

## Pašyreńnie pahraničnaha pojasa. Ahraničeńni asabovaha ruchu.

25 červienia sioleta Ministr Unutranych spraŭ abvieściŭ rasparadžeńnie, jakim značna pašyraje abšar pahraničnaha pojasa ŭva ŭsiej Polščy. Nas cikaviać tut abšary z biełaruskim nasielnictvam, jakija ŭvachodziać u hety pašyrany pahraničny pojas („pas graniczny“). Pavodle hetaha rasparadžeńnia ŭ pahr. pojas uvajšli ciapier nastupnyja abšary:

u vajavodztvie biełastockim: m. Dambrova i Suchavola, sakolskaha pav ;

u vajavodztvie navahradzkim: nie abniataja raniej pryhraničnym pojasam rešta pavietu baranavickaha; vołaści: Lubča, Niahnievičy, Ščorsy, Kareličy, Rajca, Cyguń, Pačapava — pav. navahradzkaha; vołaści Verenaŭ, Žyrmuny, Subotniki, Lipniški, Iŭje — pav. lidzkaha;

u vajavodztvie vilenskim: nieabniataja raniej pryhraničnym pojasam rešta pavietu pastaŭskaha, i cełу ašmianski paviet.

Pavodle dałučnika da rasparadžeńnia, jaki padaje razam abšary, što raniej uvachodzili i ciapier novaŭłučanyja ŭ pahraničny pojas, hetym pahraničnym pojasam abniaty takija abšary:

u vajavodztvie biełastockim: paviety: aŭhustoŭski, horadzienski, łomžynski, ostrałencki, suvalski, ščučynski, z pavietu biełastockaha vołaści: Dolistovo, Goniondz, Goniondz — miesta i Tryścianaje (Trzcianne), z pavietu sakolskaha vołaści: Dubrova, Dubrova — miesta.

u vajavodztvie navahradzkim: paviety: baranavicki, niaśviski, staŭpiecki, va-

небудзь расьлінай — напр. адным лубінам, або мешанкай пялюшкі з гарохам і вікай. Адзін толькі лубін сеецца там, дзе поле хочуць толькі пагнаіць. Тамжа, дзе з пасеенага хочуць мець і пашу, там лепш сеяць успомненую мешанку. На лёгкіх грунтох сеюць лубін жоўты, на цяжэйшых, бедных на вапну грунтох — лубін сіні.

Каб удаўся такі пасеў, патрэбны тры рэчы: сеяць не пазьней першых дзён жніўня, сеяць мелка і — гэта ўжо ад чапавека найменш залежа — каб ня трапіць пад суш. Чым раней пасеяць, тым лепш. Што да глыбкі пасеву, дык можна яе рэгуляваць толькі пры засеве з сеялкі і тады сеяць трэба як можна мялчэй. Высейваючы-ж з рукі (на шырака)трэба зразу засеенае поле прывалаваць гладкім цяжкім валам і тады прыбіць лёгкай бараной.

На гэктар высейваецца 200—250 клг. лубіну ці гэтулькі сама ўспомненай ужо мешанкі. Яшчэ раз прыпамінаем, што сам толькі лубін можа быць ужыты толькі на ўгнаеньне пад усякую расьліну, пры гэтым пад буракі яго трэба заворываць яшчэ звосені, а пад бульбу — можна заворываць і вясной. Мешанка можа быць выкарыстана як угнаеньне або ўся, або толькі ейнае карэньне. У гэтым апошнім выпадку ўся зялёная маса або скормліваецца на зялёна, або сушыцца ці заквашываецца.

Гэта аднак яшчэ ня ўсё. Глеба пад аржышчам неабсееным ссыхаецца і яе пасьля вельмі трудна ўзараць наагул. Інакш з глебай абсеенай: яна захоўвуе сваю зярністую будову, а акрамя таго, калі на ей засеены расьліны матыльковыя, дык такая глеба яшчэ і ўзбагачываецца на гнойныя сучасткі; а з глебы незасеенай гнойныя сучасткі або ўцякаюць безкарысна ўглыбку або іх пажырае ўсякае пустазельле.

І яшчэ адно: у часы, калі прыходзіцца хапацца за кожнную пядзю вольнай зямлі і абрабляць яе як пад агародніну, ня можна дапусьціць, каб нейкая часьць поля палавіну лета стаяла нявыкарыстаным.

Таму ўзорываньне і абсяваньне аржышча ёсьць гаспадарскай канешнасьцяй. Хто гэтак зробіць у сябе раз на пробу, той будзе падобна паступаць заўсяды.



łożynski; z pavietu lidzkaha vołaści: Bieniakoni, Ejšyški, Iŭje, Lipniški, Raduń, Subotniki, Verenaŭ, Zabałaćcie i Žyrmuny; z pavietu navahradzkaha vołaści: Cyryń, Kareličy, Lubča, Niahnievičy. Pačapava, Rajca i Ščorsy;

u vajavodztvie vilenskim: uvieś abšar vajavodztva.

Rasparadžeńnie ŭvodzie na niekatoryja čaści i na ŭvieś abšar pahraničnaha pojasa takija ahraničeńni ŭ asabovym ruchu, raniej abaviazujučyja vyłučna ŭ h. zv. pahraničnaj pałasie („strefa nadgraniczna“):

1) na całym abšary pahraničnaha pojasa — toj, chto choča mieć fotohrafičnyja aparaty i pradmiety pry pomačy jakich možna parazumievacca na adležnaść, z vyniatkam radyjoadbiornikaŭ, — musić na ich atrymać dazvoł ad starasty.

2) u całym paviecie niaśviskim, u paviecie baranavickim, z vyniatkam vołaściaŭ: Mołčadź. Novaja-Myš i Dabromyśl, u vołaściach: Stoŭpcy, Mir, Žuchavičy i Śvieržeń staŭpieckaha pavietu: — vymahajecca mieć dovad asabisty (pašpart), a pryjezdnyja — musiać mieć dazvoł ad administracyjnaj ułady (starasta, vajavoda), kab mahčy zatrymacca pastajanna ci časova. Nie patrabujuć hetkaha dazvołu hramadzianie, pražyvajučyja tam bolš 6 miesiacaŭ prad uvachodam u siłu rasparadžeńnia, hramadzianie, što majuć haspadarku, a nie viaduć i nie pražyvajuć u joj, asoby, što zaličajucca da siamji uspomnienych i pražyvajučyja u supolnaj z imi haspadarcy, uradaŭcy dziaržaŭnyja i samaŭradayyja, siemji ich, čužaziemcy, padarožnyja z važnymi dakumentami; apроč taho na abšarach, aznačanych vajavodam

# Як і нашто хацелі-б паны упрамысловіць „Крэсы”?

Віленскае абшарніцкае „Słowo“ ў № 162 (з 15.6.38 г.), у перадавым артыкуле „С.О.Р. a Ziemie Wschodnie“*), гаворачы аб разбудоўваным цяпер „за грошы F.O.N.—у**) і за францускую пазыку,“ даходзіць да выснаву, што СОР, куды кіруюцца ўсякія новыя фабрычныя прадпрыемствы, з пункту гледжаньня Крэсаў гэта крыўда і катастрофа. — Чаму?

Бо тут, знача на „Крэсах“ „пры нізкім роўні земляробства, ёсьць найбольшае перанасяленьне. Тут праца найтанейшая... Тут урэшце край, дзе трэба вырашыць вялікую **беларускую праблему** (падчыркнулі мы—*рэд. „С—чы“).* Беларусаў спольшчыць, злацінізаваць яшчэ можна... Вымагае гэта адпаведняй адміністрацыі, адпаведна разумнай палітыкі пэрсональнай, школьнай, языковай, касьцельнай і г. д.“

Як да гэтай мэты йсьці?—Вось-жа, паводле „Słowa:“

Трэба беларусаў перасяляць у места, бо „селянін беларускі ня спольшчыцца седзячы ў закіненай вёсцы, але можа спольшчыцца, калі пяройдзе ў места як работнік... Гісторыя вуча, што земляробскія народы вынарадаўленьню наагул не паддаваліся, але масы меставыя, тымбольш згуртаваньні прамысловыя на ўсякую асыміляцыю былі вельмі падатныя. Без упрамыслоўленьня „Крэсаў,“ без стварэньня тут густых асяродкаў меставых, польскасьці іх не ўмацуем. Калі-б ня тэмпо гаспадарскага жыцьця Злучаных Штатаў Паўн. Амэрыкі, не патрапілі-б яны ніколі так хутка ўхлынуць у сябе аж дзьве-траціны свайго сучаснага насельніцтва не англо-саскага паходжаньня.“

Гэткія пляны снуе, паўтараем, абшарніцка-консэрватыўнае „Słowo,“ якое наагул быццам праціўнае таму,каб казна ўмешвалася ў гаспадарскае жыцьцё краю. Дадаваць да гэтага што-небудзь ці паясьняць — лічым за рэч лішнюю. Аб што тут ідзе — кожны разумее.

*) С.О.Р. (Centralny Okręg Przemysłowy) пісала аб ім „Самапомач“ летась у арт. „С.О.—S“.
**) F.O.N. (Fundusz Obrony Narodowej.

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

---

i važnych z hledzišča publičnaj biaśpiečnaści — asoby abaviazany zameldavacca ŭ vołaści, a kali tut nielha z tych ci inšych pryčyn—dyk u sołtysa, u praciahu 24 hadzin ad chviliny prybyćcia, i mieć pry sabie paśviedčańnie ab zameldavańni.

3) u vołaściach Ostraŭ, Kryvošyn, Miadźviedzičy, Lachavičy, Dareva, Jastrembla, Haradyšča, Stałovičy i Volnaja — baranavickaha pavietu vymahajecca, aproč dazvołu admnistracyjnaj ułady (starasty, vajavody), na prava zatrymacca pastajanna ci časova, i vykanańnie svaich abaviazkaŭ, — zabaraniajecca načny ruch (ad zachadu da ŭschodu sonca); dazvalajecca hetki ruch u niekatorych vypadkach, jak u vypadku śpiešnaj lekarskaj i inš. pomačy.

4) u vyličanych u punkcie 2 abšarach, a tak-ža ŭ całaj Vilenščynie vajavoda ci ŭpavažnieny im starasta moža, kali hetaha vymaje interas biaśpiečnaści i acharony hranicy, paasobnym asobam zabaranić pražyvać i prabyvać, praz niekatory čas, ci pastajana.

5) u vyličanych u p. 2 abšarach uvodziacca niekatoryja ahraničeńni ŭ adnosinach da novych muravanych budynkaŭ — vymahajecca dazvoł aproč adpaviednych uładaŭ budaŭlanych, tak-ža dazvoł pavietavaj administracyi ahulnaj (ad starasty); na hetych-ža abšarach usia niaruchomaja majemaść, patrebnaja dla metaŭ acharony hranicy, moža być, adpaviednym sposabam, prymusova, zabrana na ŭłasnaść dziaržavy.

Vyličanyja ŭ punktach 1—5 ahraničeńni, a tak-ža vydanyja ŭ suviazi z hetymi ahraničeńniami rasparadžeńni vajavodaŭ važny da 1 listapada 1939 h.

Rasparadžeńnie nabiraje siłu 25 lipnia siol.

# Кампост з торфу

Там дзе няма даволі хляўнога гною, можа яго заступіць кампост, які прыгатаўляецца з усякага роду адпадкаў — усякага зельля, наносу з прыдарожных равоў, усякага гною і г. д. У Нямеччыне цяпер зьвярнулі ўвагу на торф, як матар'ял, з якога можна прыгатаваць вельмі добры кампост.

Што торф добрым ёсьць матар'ялам на падсьцілку, ведама кожнаму. Практыка паказала, што з яго можа быць добры кампост, каторым можна гнаіць пад усякія расьліны, нават пад такія, якія сьвежага хляўнога гною ня церпяць.

Нямецкія сяляне прыгатаўляюць тарфяны кампост гэтак: Выбіраецца вольнае роўнае месца, на якім і рассыпаецца ня вельмі грубым пластам раздроблены торф. Пласт гэты раўнуецца лапатай ці дошкай. Пасьля сыплюць крыху навозаў штучных з такім вылічэньнем, каб на кожныя 75 клг. торфу выпадала 5 клг. азотняку, 7 клг. супэртомасыны і 7 клг. паташавай солі (ці 15 клг. каініту). Усё гэта старанна перамешваецца лапатай і пасьля паліваецца вадой да такой меры, каб было ўсё прасычана вадой, але не тварылася балота. З прыгатаванай гэтак масы ссыпаецца прызма ў форме капца на бульбу, абіваецца лапатай, абсыпаецца зямлёй на грубіню даланя і пакідаецца ляжаць на 4 месяцы. Па гэтым часе ўвесь капец старанна перакопываецца і ўзноў складаецца ў прызму, каторая таксама абсыпаецца пластам зямлі, але гэтым разам ужо вельмі тонкім, бо ўсяго на 2 пальцы. Перакапаны гэтак і абложаны капец ляжыць спакойна дальшыя 4 месяцы, пасьля якіх такі кампост ужо становіцца гатовым да ўжытку.

Калі маем мала торфу, дык кампост такі стасуецца перад усім пад усякую агародніну, пад варыва, асабліва пад капусту, памідоры і г. д Калі-ж такога торфу ёсьць даволі, дык можна яго даваць пад усякія культуры польныя, асабліва пад буракі цукровыя і кармовыя.

Калі прыгатоўвуецца шмат кампосту, дык няма патрэбы важыць усяго торфу. Даволі зважыць адзін напр. кошык, каторым ссыпаем торф на кучу. Навозаў штучных таксама даём больш за раз, з тым аднак, каб агулам паказаная прапорцыя была захавана. Асабліва-ж пры гэтым трэба уважаць, каб добра вымешаць мешаніну гнаёў з торфам. Месца, на якім прыгатаўляецца кампост, можа ляжаць усюды, абы толькі пад ім ня было споднян вады і каб яго не падмывала вада дажджавая. Найлепш дзеля таго закладаць такі кампост нейдзе на старане і на малым узгорку.

*Паз.*

# Аб вадзе для жывёлы трэба дбаць ня менш як аб корме

Ведама, што маладая жывёла расьце часам памалу, а бывае, што і зусім перастане расьці, калі ей даваць мала вады, або нават калі паіць яе нераўнамерна.

Каб арганізм разьвіваўся нормальна, ён патрабуе вады таксама, як усякага іншага корму. Без вады-ж нават прыняты корм ня можа быць выкарыстаны.

Ужо ў той час, як паша дастанецца ў рот, мусіць там быць і вада, каб памагчы пры пражоўваньні і пры глытаньні ўзятай пашы. Пасьля на ператраўленьне і на тое, каб распушчаныя кармавыя сучасткі маглі перайсьці ў кроў і разыйсьціся па цэлым целе, таксама патрэбна вада. Трэба ведаць, што сьліна, кроў і ўсе страватраўчыя сокі гэта таксама раствор у вадзе адпаведных субстанцый. Урэшце з вадою ў форме мачы выдзяляе арганізм усё тое, што яму непатрэбна.

Вада рэгулюе унутраную тэмпэратуру цела, каторая мусіць быць сталай, бяз увагі на тое, якая тэмпэратура звонках: сьцюдзена ці гарача. Зімой ці ўлетку тэмпэратура цела павінна быць аднолькавай. Калі на дварэ сьцюдзена, дык жывёла павінна тады больш корму перамяняць на цяпло, калі ж на дварэ цёпла, дык тады п'е больш вады. Выпароўвуючыся з цела, ў форме поту ці пары з грудзей, вада выносіць з цела надбытак цяпліні і гэтым не дапускае да празмернага перагграваньня цела.

Перамяняючыся ў пару (пот на скуры) вада спатрабоўвуе вельмі шмат

цяпла, таму спацеўшую жывёлу трэба канешна добра выціраць, а не чакаць пакуль высахне сама. Высыхаючы сама, вада (пот) забрала-б з цела вельмі шмат цяпла і магла-б яго празмерна астудзіць. Гэтага асабліва трэба сьцерагчыся ўвосені і ўзімку, калі жывёла бывае мокрай ад дожджу й сьнегу.

Ведаючы значэньне вады ў арганізьме, трэба ўважаць, каб яе там заўсяды было даволі. Часьць вады жывёла бярэ ў сябе разам з кормам, бо навет самы сухі корм мае ў сабе больш 10% вады. Рэшту патрэбнай вады трэба дапоўніць вадапоем. Колькі вады мае жывёла выпіць, пакідаем гэта ейнай ахвоце. У часе упалаў трэба жывёлу паіць часьцей. Таксама жывёла кормленая сухой пашай патрабуе больш вады. Каровы вельмі малочныя патрабуюць больш вады чым каровы менш малочныя. Каб жывёла раз дастаўшыся да вады не перапівалася, што ёсьць вельмі шкодным, трэба яе паіць найменш тры разы ў дзень. Лепш аднак, калі такая жывёла будзе мець сталы доступ да вады.

Наагул скаціну пояць пасьля корму. Можна аднак паіць яе і падчас корму, з тым аднак, каб не паіць яе прад кармленьнем пашай сачыстай, бо тады дастала-б за шмат вады. Ня можна паіць жывёлы па пашах, якія выклікаюць уздуцьцё, напр. па канюшыне. Гэткія пашы зьмешаныя з вадой хутка фэрмэнтуюць і вытвараюць лішку газаў, якія і раздуваюць жвач*).

Каня зараз па пашы паіць ня можна, асабліва ня можна гэтага рабіць зараз па аброку. Вада, пераплываючы праз малааб'ёмісты трыбух каня, выпаласківала-б з трыбуха ў кішкі нястраўленыя часткі корму, а гэта бывае прычынай колькаў. Таксама вада ў гэту пару занадта разрэджвае страватраўчыя сокі ў трыбусе, што некарысна адбіваецца на ўсім траўленьні. Загрэтай жывёле ня можна даваць вады, а даць перш сена скропленага вадой або з дамешкай зялёнай сьвежай травы.

Вада для скаціны карысьнейшая з адкрытых вялікіх жарол, як рэкі, вазёры, ставы, чымся з крыніцаў і студняў (калодзежаў). Вада рэчная, вазёрная, з ставоў і сажалак мае ў сабе г. зв. багняныя бактэрыі, якія памагаюць травіць цяжка страўную цэлюлёзу, каторай шмат у такіх пашах, як салома, мякіна, сена, старэйшая паша зялёная ды кішонка. Вада гэта мае той недастатак, што ўзімку яна за сьцюдзёная а ўлетку — за цёплая.

Усякая вада павінна быць **здаровай**, **чыстай** і ня мець ніякіх запахаў

Жывёла кормленая сочнай пашай патрабуе менш вады. Вельмі малочным

*) Жвач гэта часьць трыбуха жвачных жывёлаў.

# HISTORYJA CHLEBA

Siahońnia nia možna padumać, kab žyć biaz chleba. Bo chleb-ža heta hałoŭnaja pažyva, kanieśnaja nam da žyćcia blizu tak jak vada

A adnak byŭ čas, kali ludzi nia znali chleba j abchodzilisia biez jaho. Było heta tady, kali ludzi nia znali ahniu i tym samym nie mahli ničoha piačy. Jeli tady syroje miasa z upalavanych źviaroŭ, syryja płady — a ŭ biadzie dyk i kareńčyki raślinaŭ. Kali časam i jeli ziernie zboža, dyk tolki pakul heta ziernie daśpieła, pakul jano było miakkaje i sačystaje. I tolki jak naŭčylisia ludzi razvodzić ahoń, pačali dumać jak piačy chleb. Treba było tut znać jašče, jak chleb raščynić, zamiasić, dy złažyć heta ciesta ŭ bochany.

Jak da ŭsiaho hetaha dajšło, my na peŭna nia viedajem, bo nihdzie heta nie zapisana. My možam tolki bolš-mienš pradstavić, jak heta mahło stacca. Heta budzie tolki dapuščeńnie, a nia samaja praŭda. A mahło jano być napr. tak:

Kali ludzi navučylisia ŭžo razvodzić ahoń, dyk pieršaje što piakli na im, było miasa. Chleba jšče piačy nie mahli, bo nia ŭmieli jšče małoć ziernie na muku. Ale mahli ŭžo varyć śpiełaje ziernie ŭsiakaha zboža, jak pšanicu — na kućciu, jačmień — na pansak. Jasna, što ziernie heta spačatku było nieabtoŭčana. Tolki paźniej mahło kamu pryjšci na dumku, što kali takoje ziernie abtaŭčy z łuski, dyk jano tady chutčej zvarycca. Paźniej naŭčylisia ludzi nia tolki jaho abtaŭkać, ale navat i małoć. Pieršy młyn byŭ vielmi prosty: žančyna brała kamień, siaktak vyhładziła adzin jaho bok, nasypała na jaho ziernie j ciorła jaho druhim kamieniem, krychu mienšym, trymajučy jaho ŭ dźvie ruki. Heta byli pieršyja žorny i pieršaja muka, z jakoj varyli kašu dy zacirku.

Jak-ža možna było pryjšci na dumku, što muku možna nia tolki varyć, ale j piačy z jaje chleb?

# Раеньне пчолаў

Спозьненае сёлета лета спазьніла і час раеньня пчолаў. Але само раеньне ня міне, бо яно ёсьць „у крыві“ пчолаў. Больш таго: практычныя пчаляры кажуць, што пры спозьненай пары на раеньне, рояцца пчолы з тым большай сілай.

Агулам узята, раеньне пчолаў гэта для пчаляра свайго роду сьвята. Так ці йнакш азначае яно пабольшаньне ліку пнёў у пасецы. Прычынай раеньня звычайна бывае прырост сілы ў пчалінай сям'і. Могуць быць аднак і прычыны іншыя. Бывае так, што выляцеў рой з такога пня, з каторага ня можна было яго спадзявацца, а той пень, каторы на добры лад мусіў раіцца, зусім аб раеньні і ня думаў.

Прад раеньнем прыходзе ў пчолаў „ройная гарачка“: пчолы пачынаюць будаваць трутнёвыя гнёзды, звычайна ў дольных рагох мёдных плястроў. На розных мясцох пчолы-работніцы пачынаюць лепш карміць некалькі аднадзенных



Матачнік.

яечак і закладаюць матачнікі. Дзень першага раеньня агулам адгадаць ня лёгка. Адзіным ды і то няпэўным знакам вылятаньня першага рою ёсьць даволі лёгка распазнавальны „супакой прад бурай“: пчолы таго пня, які мае раіцца, у дзень выраю звычайна не лятуць, як усе іншыя, на работу, але пры-

---

каровам побач з паеньнем вадой радзяць даваць узімку цёплую пойлу — адно да дзьвюх вёдраў на дзень перад паеньнем вадой, бо пасьля такога паеньня карова магла-б абапіцца. Кепска рабіў-бы той, хто хацеў-бы штучна выклікаць смагу ў жывёлы, даючы ей напр. вельмі соленую пашу, каб жывёла больш піла вады. Гэткая лішняя вада дойнасьці не падыйме а траўленьне пагоршыць. І. М.

---

A choć-by tak: Jakajaś žančyna ŭsypała muku ŭ harščok z vadoju, kab varyć z jaje jakuju kašu. Až tut uchodzić susiedka pazyčyć ahniu ci čaho inšaha. Pačałasia hutarka i haspadynia ab usim zabyłasia. Nareščie susiedka raźvityvajecca, a haspadynia jdzie da prypiečka, kab nabrać žaru i tady tolki prypomniła sabie ab svajoj kašy. Hladzić, a jana ŭžo źvierchu śćviardzieła byccam kara na drevie. Biare za harščok, a jon razvalvajecca, pierahareŭ na ahni, urešcie łuś, i z jaho vyvaliłasia kaša, usia abniataja takoj samaj karoj, byccam kamień ćviordaj. Maje haspadynia padvojnuju škodu. Ale jana ŭsio-ž cikavaja: razłamała hetu bondu, abhledziła dobra, paniuchała — dobra pachnie, dalej — pakaštavała — smašna. I jak viarnuŭsia muž, dała jamu pakaštavać hetaha pieršaha „chleba“; taksama kaža, što smašna, dy bolš taho — zahadvaje, kab na druhi raz zrabiła taksama. Daviedalisia susiedki jak i što — i ŭžo pačali piačy sabie presnyja bondy.

Ale vot adna z paźniejšych žančyn raščyniła ciesta, śpiakła z jaho bondu, a pasudzinu, zabyŭšysia, pakinuła niavymytaj. Za kolki dzion uznoŭ raščyniła ciesta u tej samaj pasudzinie i, nia vyčyściŭšy, dumała sabie — i heta ciesta, i heta ciesta!

A tut uznoŭ niešta jaje adarvała da inšaj raboty... i jana pakinuła ciesta. Viartajecca pa niejkim časie, a jejnaje ciesta razrasłosia ŭdvoje ci ŭtroje bolej. Biare jana heta ciesta, raskładaje jaho na šyrokija listy (užo nie ŭ harški, bo ich škoda, kab treskali), dy piače na žaratku. Śpiakła, kaštuje — kudy smašniej jak bonda presnaja. — Vot heta j byŭ pieršy chleb z kvasnaha ciesta, bo ciesta, jakoje astałosia ad papiaredniaha raščyniańnia na bakoch pasudziny, skvaśnieła i zakvasiła ciesta śvieža zamiešanaje.

Heta, tak-by skazać, dahadkavaja pradhistoryja chleba. A ciapier piarejdziem užo da historyi praŭdzivaj...

*„Ж.ˀта Зн.“* (*d. b.*) *A. Łatocki.*

гатаўляюцца. Знакі раеньня другога і дальшых больш ужо выразныя: прадвесьнікам іх бывае ведамае сьпяваньне маткі — ці-ці-ці або ква-ква-ква. За восем дзён па першым вылятае рой другі, па ім за тры дні — трэці, яшчэ за дзень-чацьверты і пяты. Пэўне-ж, такое сільнае раеньне ёсьць ненармальным і разумны пчаляр да яго недапускае, бо такія пчолы і самі пасьля будуць зусім слабыя і не дадуць ніякай карысьці мёдам. Таму пчаляр такі праглядае свае пчолы ў пару раеньня што тыдзень і выразае з іх матачнікі. Але нармальна бяручы адно раеньне, а нават два гэта зьявішча зусім натуральнае.




**Пчаліная сям'я**

1. матка, 2. работніца, 3. труцень.

Што датыча пары дня, калі рой выходзе, дык звычайна гэта бывае паміж 10-тай гадзінай раніцай і 2-гой паабедзе; але ведамыя выпадкі, калі такія пчолы раіліся а гадзіне палавіна восьмай нараніцы і палавіна сёмай увечары. Гэткія перасуны раніцай і ўвечары здараюцца тады, калі прыходзе пара йсьці на вырай, а надвор'е ўсьцяж дажджыстае: тады пчолы рояцца, як толькі крыху „блісьне" (сьцяплее і ўспакоіцца вецер), незалежна ад таго ці гэта будзе раніца ці вечар.

Першы рой звычайна ніколі не ўцякае, бо матка ягоная бывае ўжо немаладая і ўзьляцеўшы крыху з вульля хутка асядае. Крыху йнакш бывае з раямі дальшымі. Але і іх ня можна без патрэбы зліваць вадой ці засыпаць пяском. І адно і другое ў найгоршым выпадку можна ўжываць толькі тады, калі рой пачынае куды сьціроўвацца, каб уцякаць. Заўсяды трэба памятаць, што такое зганяньне рою нішчыць і забівае вельмі шмат пчол, а часам і самую матку; у гэтым апошнім выпадку рой нідзе не асядае і вяртаецца назад у той вуль, з якога выйшаў.

Абпырсківаньне ці абсыпаньне пяском рою трэба спыніць, як толькі рой пачне асядаць. Асаджваньне асеўшага рою гэта справа шчасьця і спрыту; шчасьця, бо лягчэй асаджваць рой, які сядзе нізка на тоненькім сучку, а спрыту, — бо пчалярства гэта не рамясло а — мастацтва. Так! Спосабаў здыйманьня раёў з высокіх, недаступных мясцоў ёсьць шмат; успомнім тут толькі аб такім, калі прымацаваная да доўгага шаста рамка з крытым чэрам падносіцца да рая, каторы сам дабравольна перасядае на гэту рамку. Калі рой спачатку ўпускаецца ў райніцу, ці нават і проста і вуль, дык найбольш на дзьве мінуты трэба зачыніць лётку: раней адчыняць яе ня можна, бо праз яе можа выляцець неасеўшая яшчэ матка, а за ей у цэлы рой. А калі новаасаджаны рой трымаць шчыльна замкнёным даўжэй, дык пчолы могуць у ім задушыцца. Што, матка пчаліная ёсьць ужо ў райніцы пазнаем з таго, што пчолы-работніцы на лётцы шумяць крылкамі, а рэшта пчол зьлятаецца ў райніцу. З райніцы ў вулей пераводзяцца пчолы ўвечары.

*С. Пчалоўскі.*

# Прадажа на выплату

Штораз часьцей і шырэй у гандлёвым абароце стасуецца **продажа на выплату** (на раты). У гарадох такі спосаб прадажы агульна прыняты; купляюць там на выплату вопратку, мэблі, радіоапараты, абразы, дываны і г. д. На вёсцы, праўда, прынамся дагэтуль, гэткі спосаб спатыкаецца радзей, аднак апошнім часам і тут што раз часьцей. Напр. сталася ўжо звычаем, што людзі нашы на вёсцы купляюць на выплату машыны да шыцьця, малачарскія цэнтрагонкі, гаспадарскія машыны і снасьць, радіоапараты і г. п.

Хоць з куплёй на выплату наагул трэба змагацца, то аднак з тае прычыны, што яна вельмі пашырана, трэба пазнаёміцца з законнымі пастановамі ў гэтай справе. Памятайма аднак, што выгода ўсякай куплі на выплату ёсьць толькі выгодай на першы пагляд і ў нормальнай гаспадарцы яна вельмі дакучлівая.

Абавязваючыя законныя пастановы аб прадажы на выплату (на раты), **абнятыя ў артыкулах 555—567 Гандлёвага Кодэксу**, рэгулююць гэты спосаб

абароту і падаюць дакладныя прадпісаньні ў гэтым прадмеце.

І так прадажай на выплату ў разуменьні гандлёвага права ёсьць **прадажа купцом рухомай рэчы за цану, якая мае быць сплачана ратамі** (часьцямі) з тым, што рэч гэта выдаецца купляючаму на рукі перш, чым ён сплаце ўсю належную цану. **Выстаўленыя вэксалі на пакрыцьцё або забесьпячэньне належнасьці за купленую рэч не звальняюць ад абавязку датрымываньня умовы аб выплаце,** а з другога боку таксама і законная адказнасьць прадаўца як паручыцеля за недастаткі (фальш, хвароба) прадаванага тавару ня можа быць ані выключана ані агранічана ніякімі умовамі.

Умову аб куплі на раты (на выплату) можна рабіць на пісьме або таксама і вусна. **Безадкладнае вымаганьне рэшты цаны куплі** у разе, калі ў умоўленым часе купляючы не заплаціць паасобных ратаў (частак), можа мець месца толькі тады,

1. калі такая пастанова ёсьць устаўлена **у пісьменную умову,** а знача такое вымаганьне можа быць толькі тады, калі ўмова была ня вусная, а пісьменная;

2. калі прадавец пры заключэньні ўмовы аб куплі-прадажы **уручыў купляючаму копію гэтай засьцярогі і**

3. калі за купляючым лічацца **неаплачаныя прынамся дзьве раты,** каторых агульная сума раўняецца больш як аднэй пятай часьці умоўленай цаны куплі.

Выходзіць з гэтага, што калі хто спозьніцца з заплатай аднэй раты, дык гэтым яшчэ не дае права вымагаць ад яго безадкладнай аплаты усей умоўленай цаны куплі. Толькі спазьненьне з заплатай дзьвюх ратаў і то толькі тады,калі іхняя агульная сума лічыць больш як адну пятую часьць цаны куплі— дае прадаўцу права вымагаць безадкладнай заплаты ўсей належнай рэшты.

Акрамя таго прадавец можа сарваць умову і адабраць прададзены прадмет, калі купляючы не аплаціў найменш дзьве раты, а прадавец заклікаў яго да заплаты, вызначаючы срок дадатквы і пагражаючы сарваньнем умовы.

У практыцы можа быць так, што набыўца машыны да шыцьця, манежу, сячкарні ці цэнтрагонкі не аплаціў дзьвюх ратаў, не зважаючы на дадзены яму дадатквы срок (тэрмін) і загрозу сарваньня умовы. Тады прадавец можа сарваць умову і прададзены тавар адабраць.

Трэба аднак зазначыць — а гэта вельмі важнае — што ў разе сарваньня умовы і адабраньня прададзенай рэчы, **прадавец абавязаны вярнуць купляючаму заплачаныя ім сумы на рахунак умоўленай цаны куплі.** У гэтым выпадку прадавец можа толькі дамагацца належнага яму адшкадаваньня за карыстаньне і пашкоджаньне купленай ім рэчы.

Апошняя рэч, гэта ў які суд кіраваць справу, калі выконываючы умовы аб куплі-прадажы на выплату паўстануць якія непаразумленьні. Абавязваюць тут агульныя пастановы цывільнай судовай працэдуры. І так—звычайна разьбірае справы той суд, у районе каторага жыве падсудны, калі паміж старонамі няма умовы асобнай. Найчасьцей аднак бывае,так што купляючы пры падпісываньні ўмовы аб куплі-прадажы, падпісывае так-жа забавязаньне, што магчымыя непаразумленьні будзе разьбіраць суд, у районе якога жыве прадавец. У гэткім выпадку ўмова такая абавязвае.

*„Zjedn.“* **Праўнік.**

---

# Прыйшлі госьці!

*(Абразок з чэскай вёскі).*

Кожны з нас мае знаёмых і сваякоў, якія ахвотна часам злучаць карыснае з прыемным і зьнячэўку зьявяцца ў адведзіны. Гаспадыня, пэўна-ж, прывітае мілых гасьцей, але хлопаты адбіваюцда ей ужо на твары. Чым і як хутка прыняць гасьцей? Калі гэта здарыцца ў нядзелю ці ў якое сьвята, дык блізу ў кожнай хаце знойдзецца запас нейкіх там калачоў ці булак — зварыцца да гэтага кава і — ўжо па бядзе. У будні дзень, калі гаспадыня, працуючы на полі, ледзь-ледзь знойдзе часу прыгатаваць найбольш патрэбнае для сваіх хатніх, прыходзіцца выручацца ў такім выпадку малаком, сьмятанай, вымешаным тварагом ды маслам з хлебам. Што з усяго гэтага ўзяць — гэта ўжо рэч самай гаспадыні. Але ўсё гэта так, „між іншым“, сягоньня хачу зьвярнуць увагу чытача на што іншае.

Гутарыла я анагдай з аднэй сваей знаёмай, якая шукала летнішча для свае дачкі. Казала яна: „Была я ў хаце адных гаспадароў, дзе мяне зараз жа паклікалі на перакуску. У кухні, ня лішне прыбранай, селі мы пры няпрыкрытым стале, які гаспадыня на скора сьцёрла сваім хвартухом, пасьля палажыла на яго акраец хлеба, нож ды паставіла кожнаму кубак з кавай, сказаўшы: кава ўжо салоджаная дык будзьце як дома. — Гэна гаспадыня ня была благой і мела найлепшую волю мяче ўгасьціць, але спосаб як гэта мелася рабіць, сапсаваў зусім намеры гэнай добрай жанчыны.

Па колькіх днёх была я ў іншай хаце, з нейкай там справай да самага гаспадара. Быў ён з парабкамі на полі, гаспадыня была дома адна і сама абхадзілася каля курэй. З мілай усьмешкай сказала мне: гаспадар хутка вернецца, калі цікавіцеся, прайдзецеся, калі ласка, тымчасам па садку. І сапраўды, хутка я дачакалася. Увяла мяне гаспадыня ў сьвятліцу з высака пасланымі пасьцелямі*), прад каторымі стаяў стол, прыгатаваны ўжо на перакуску — засьцелены ўзорыстым настольнікам, на ім талеркі з лыжачкамі і нажамі, цукярніца, на ўзорыстай талерцы накроены хлеб, на другой — хораша зьбіты ком масла. Гаспадыня, у чыстым хвартуху, прынесла дымячыя кубкі кавы для сябе, для мяне і для гаспадара. А пасьля — яшчэ збанок чыстае сьцюдзёнае вады і перакуска была дасканальная. — У думцы паўстала ў мяне розьніца паміж гэтымі двума дамамі“.

Заўважце сабе, якадчула мая знаёмая прыняцьце, падчас якога была пададзена тая самая страва (хлеб, кава, масла), але розным спосабам. Гэта апавяданьне было мне панукай да напісаньня сяньняшняга артыкулу.

**Стараймася заўсяды прыняць гасьцей у хаце прыбранай хоцьбы зусім проста, і ў кухні, але заўсяды чыста і з смакам!**

Ня думайма, што госьць не заўважыць, колькі ўвагі зьвяртаем на ягонае прыняцьце. Хоць-бы мы давалі і самую дробную рэч, стараймася рабіць гэта спосабам, каторы паказваў-бы, як нам госьць мілы. Вялікая розьніца ў тым, калі падамо хоць-бы кубак малака проста на стол, або падамо гэты самы кубак з малаком на сподку ці талерцы, а стол засьцелім прынамся прад самым гасьцём, калі чамусьці не выпадае засьцяліць яго цэлага. Ёсьць звычай у нас, што гаспадыня тлумачыцца і просіць, каб госьць прыняў пачастунак „вось так, па-хатняму“, як гэта на вёсцы звычайна бывае, але гэтым ня можна закрываць нядбаласьці прад гасьцём, ані няўвагі.

**У шмат якіх старонках дбаюць аб гэта вельмі срога. Навучэмася гэтага самага і ў нас.**

Нічога нам гэта не каштуе, калі часам праветраем свае абрусы (настольнікі), калі час-ад-часу ўсьміхнуцца да нас квяцістыя кубачкі, што сумна і штыўна стаяць нейдзе схаваныя ў крэдэнсе.

На пробу прыгатуйце на нейкую нядзелю гэткую перакуску, хоць-бы на імяніны каторага-небудзь сем'яніна ці ў угодкі шлюбу. Пабачыце, гаспадынькі, колькі будзеце мець пацехі, калі сям'я ваша засядзе на малую ўрачыстую перакуску. А калі пасярэдзіне стала паставіце маленькі слоічак ці вазачку з колькіма кветкамі, а пасьля напоўніце шкляначкі хатнім яблычным вінам — тут вам напэўна сэрца шчыра разрадуецца і будзеце чакаць аказіі, каб гэткую перакуску паўтарыць. —

Калі гэтак прыймеце вашых гасьцей, хоць-бы і скромна, вынесуць яны з вашай хаты найлепшы ўспамін.

*„Milot. Hosp.“* **М. Дыкова.**

**Ад перакладчыцы:** Увага гэта аб гасьцях вельмі на часе і для нашых беларускіх варункаў. І ў нас чамусьці пакутуе памылковы пагляд, што ўвагу сваю і пашану можна выказаць чалавеку толькі нечым бліскучым, вялікім, дарагім. Тымчасам для гэтага патрэбна ня гэтулькі грашэй, колькі розуму і сэрца. А ў адносінах да самых гасьцей трэба ў нас з усім націскам прыпомніць, каб прыходзячы ў чужую хату не „забываліся“ абцёрці ногі і не „сьпяшаліся“(!) — курыць. З гэтым у нас чыстая бяда.



*) Чэшкі, сьцелячы пасьцель, падушкі не кладуць толькі ў галовах — як у нас, — але раскладаюць іх роўна па ўсей пасьцелі, якую пасьля роўна прыкрываюць пярынай і посьцелкай. Таму кожны ложак чэскі прадстаўляе сабой высокі роўны катафалік.— р э д.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# Гаспадарская хроніка

**Па кірмашы на зёлкі.** Як ужо пісалася ў „Самапомачы," 24 і 25 чэрвеня сёл. ў Вільні адбыўся 1-шы кірмаш на лекарскія зёлкі. Задачай гэтага кірмашу быў ня гэтулькі сам гандаль, колькі абзнаёмленьне шырэйшых кругоў насельніцтва з гадаваньнем гэтых зёлак на Віленшчыне, спосабамі зьбіраньня і пераробкі іх, а так-жа з рынкамі збыту.

Лекарскія зёлкі на Віленшчыне гэта вельмі паважная галіна працы. Растуць тут зёлкі перад усім у дзікім стане, бо шмат тут ёсьць яшчэ няўжыткаў. Відаць гэта і з таго, што за леташні год з самай толькі Віленшчыны і суседніх абшараў было вывезена за граніцу лекарскіх зёлак на 700.000 зл., што састаўляла 81 проц. прадукцыі зёлак у цэлай Польшчы. А колькі-ж іх было зужыта на месцы?

На абшары Віленшчыны і Навагрудчыны зёлкамі гандлююць 46 фірмаў, з каторых 8 фірмаў займаюцца вывазам зёлак за граніцу. Усе яны на зёлках зарабляюць вялікія сумы, а неарганізаваныя зьбіральнікі зёлак аддаюць плод свае працы за марныя грашы. Трэба арганізавацца.

**Радіоапараты патанеюць.** Дагэтуль радіо было мала а то і зусім недаступна для беларускага сяла з трох прычын: дзеля труднасьцяў з польскай мовай, якая ў польскім радіо скрось ужываецца, дзеля высокай месячнай аплаты за права карыстаньня радіем і ўрэшце дзеля дарагоўлі самых апаратаў, асабліва апаратаў лямповых. Аб тым, каб прадбачылася якаясь зьмена на лепшае ў першых двух выпадках, тымчасам ня чуваць. Затое газэтамі прайшла гутарка, што цана лямповых радіоапаратаў быццам значна абніжыцца. Трылямповы апарат мае ад сёлетняй восені каштаваць ужо толькі 60—90 зл., а пяцілямповы — 120 зл. Прычына абніжкі ў тым, што ў Польшчы пачалі ўжо вырабляць лямпы да апаратаў, якія дагэтуль прывозілі з-заграніцы за вельмі высокую цану.

**Град і пяруны** прайшлі па ўсім нашым Краю ў канцы мінулага і пачатку гэтага месяца. Асабліва вялікія шкоды зрабіла бура 24.6.38 ў Ашмяншчыне (гміны: Крэўская і Куцавіцкая), 3.7.38 у Навагрудчыне і 5.7. у Пастаўшчыне. У Ашмяншчыне град мясцамі выбіў блізу палавіну збожа.

**Украінкі працуюць.** 20.V. сёлета ў Львове кончыўся III-ці курс інструктарак хатняй гаспадаркі, ладжаны т-вам „Сільський Господар." На курсе, які трываў больш 6 месяцаў (ад 5.XI.1937 да 20.V.38 г.), курсанткі праходзілі гэткія прадметы: кухаварства, трыкотарства, крой і шыцьцё, хатняя гаспадарка, гыгіена, гародніцтва, садоўніцтва, глебазнаўства, гадоўля хатняй жывёлы і птушкі, малачарства, пчалярства, лекарскія зёлкі і ядвабніцтва. — Усе гэтыя прадметы праходзіліся так, каб курсанткі маглі з імі ня толькі дакладна пазнацца, але і каб ўмелі іх пераказаць тым, сярод якіх будуць працаваць, гэта знача сваім сялянкам. — Прыдаліся-б такія інструктары і на вёску беларускую.

**Вэксалі і чэкі заграніцу.** Пакуль у Польшчы абавязвае закон аб агранічэньнях дэвізавых, на высылку заграніцу ў пісьмах вэксалёў і чэкаў трэба мець дазвол ад Дэвізавых Камісіяў, якія знаходзяцца пры аддзелах Банку Польскага і пры дэвізавых банках.

**Аб нас ў Варшаве** радзілі 5 г. м. у справе „падняцьця гаспадарчага земляў паўночна-ўсходніх," г. знача Віленшчыны, Навагрудчыны і суседніх абшараў. З дакладаў на канфэрэнцыі выявілася, што на гаспадарчыя мэты Віленшчыны празначана 15 міл. зл., а для Навагрудчыны — 8 міл. Што за гэтыя грошы будуць будаваць — аб гэтым не казалі.

„Самапомач" выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС"

Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.



цягненых нітачак паміж лістамі, дзе яны і перавяртаюцца ў пачваркі.

*Нішчэньне:* 1) абразаць і паліць галінкі з гнёздамі, 2) абпырсківаць дрэвы моцнай струёй парыжскай зелені ў часе жыраваньня (1 грам зелені і 5 грамаў вапны на 1 літр вады).

**Калечнік ліставы** (*Simaethis pariana — Clerck)* вусеніцы робяць часам вельмі паважныя шкоды на маладых яблынях, бо калечаць лісты, выядаючы з іх зялёныя часткі.

*Барацьба:* 1) абпырсківаньне дрэваў парыжскай зеленяй у пачатках траўня і ў пачатках ліпня, 2) страсаньне вусеніц з дрэваў у часе іх жыраваньня, закладаючы ў гэтым-жа часе на пні дрэў ліпкія пояскі. Апаўшыя вусеніцы, хочачы ўзьлезьці ўзноў на дрэва, будуць ліпнуць да паяскоў і гінуць.

## Жукі *(Coleoptera)*.

Жукі маюць дзьве пары крылак. Губны апарат прыгодны да грызеньня і жуцьця. Поўная перамена. Характэрнай іх асаблівасьцяй ёсьць тое, што маюць цьвёрдыя крылкі пакрывы (хітыновыя), каторыя ня служаць ім да лётаньня, але ахраняюць другую пару крылак балонкавых, пры помачы каторых лётаюць жукі. З іх вельмі шкоднымі ў нас у садох зьяўляюцца:

Яблынны даўганосік (*Authonomus pomorum — L.*) вельмі распаўсюджаны, адзін з найгразьнейшых шкоднікаў яблыні. Зімуе ён звычайна ў шчэлінах кары дрэваў. Вясною самка складае яечкі ў пучкі яблыні, радзей — ігруш. Лярвы, выклюнуўшыся, зьядаюць завязкі пучкоў, а пасьля перавяртаюцца тамака ў пачваркі. Вырaслы жучок жывіцца лістамі яблыні.

*Барацьба:* 1) перад разьвіцьцём зімовых пучкоў, рана або ў пахмурныя дні, абтрасаць дрэва над разасланымі на зямлі посьцелкамі. Апаўшыя жукі — нішчыць, 2) абпырсківаць дрэва вясною або ўвосені вапен-

ным малаком,) 3) у другой палавіне лета, заклադаць на дрэва перавёслы з саломы, паперы і г. п.

Маёвы хрушч (*Melolontha melolontha — L.*)— нішчыць, будучы лярвай, карэньні пладовых дрэваў, а як вырослы авадзень — аб'ядае лісьцё.

Бліжэй аб яго шкодах і спосабах змаганьня напісана ў маёй кніжцы „Majovy chruśč i sposaby baraćby z im," Vilnia 1935 h. і туды адсылаю чытачоў.

Шмат яшчэ ёсьць шкоднікаў і то ня толькі з авадзінага сьвету, але і з іншых грамад зьвяроў, як шмат ёсьць і хваробаў распаўсюджаных у нашых садох і іншых расьлінных культурах. Шмат заняло-б месца адно толькі іх вылічэньне, ня кажучы ўжо аб іх апісаньні і падаваньні спосабаў барацьбы. Дзеля таго мы агранічыліся пакульшто да паданьня толькі найбольш важных гатункаў і то толькі шкодных у садаводзтве.

**Мікалай Караленка.**

## Якія дрэўцы садзіць у садку?

Найлепшымі гандлёвымі сартамі яблыні для нашага краю ёсьць: Антонаўка, Бержэніцкі Ананас, Ліфляндзкі Графэнштэйн, Струмілаўка (Мордэр), Літоўская Пэпінка, Літоўская Цукроўка (салодкая) і Папяроўка (Белы Балтыцкі Наліў). Тры апошнія сарты: — Літоўскую Пэпінку, Цукроўку і Папяраўку, у садох далёкіх ад гарадоў, казармаў і вялікіх фабрык ня варта шмат садзіць, бо на месцы іх тады трудна збыць, а дальшых перавозаў гэтыя сарты баяцца, бо лёгка абіваюцца. Але, калі хто ўмее добра апаковываць свой экспортны тавар, дык той і гэтыя сарты яблык можа сьмела садзіць.

Хто закладае садок не на прадажу, а для сябе, той апрача вышэйназваных мусіць пасадзіць у сябе йшчэ Каробаўку (Летнюю Рэнэту), Баровінку і Літоўскую Малінаўку.

Як мусяць выглядаць дрэўцы выбраныя да пасадкі?

Дрэўца да пасадкі мусіць быць бязумоўна здаровае. Мусіць яно быць зашчэплена на нашай лясной дзічцы (malus prunifolia). Дзічок ужыты пад шчапленьне мусіць быць абавязкава пікаваны і мець добрае карэньне.

Пень дрэўца павінен быць таўсты, моцны, просты, із здаровай, бяз моху і бяз цьвёрдай, старой, як бляха сівой кары. Антонаўка, Графэнштэйн і Пэпіна Літоўская пень маюць ў большасьці выпадкаў крывавасты, але яго можна лёгка выпрастаць, прывязаўшы да калка. Затое Ананас Бержэніцкі, Папяроўка, Струмілаўка, Цітаўка, Баравінка, Цукроўка Літоўская і Каро-

баўка (летняя Рэнэтка) заўсяды бываюць простыя, рэдка калі здараюцца крываватымі.

Карона павінна быць правідловая, ня густая і не аднабокая. Правідловая карона мае пяць бакавых сучкоў і адзін шосты ўверх — праваднік. Калі карона загушчаная, дык трэба яе прарэдзіць. Але хто гэтага сам ня ўмее рабіць, дык хай запытае ў умеючага, каб не папсаваць карону. Можа быць так-жа добрай карона з трох правідлова распаложаных па бакох сучкоў і аднаго праваднікa ўверх.

Заграніцай (Амэрыка і Саветы) гадуюць дрэўцы з каронамі ўжо не такімі, а так званымі „лідэрнымі." У нас-жа аб „лідэрных" каронах мала хто знае. Калі які пітомнік (школка) цяпер і выгадаваў-бы дрэўцы з такімі каронамі, дык мала іх прадаў-бы.

Сучкі ў кароне мусяць быць здаровенькія, чысьценькія ад яечак травяной тлі і мець добры прырост.

Найлепшы век да саджэньня дрэўцаў: двух і трох гадовыя, не старэйшыя.

Вышыня дрэўцаў для садкоў неабгароджаных найлепшая ад 100 да 120 сантымэтраў, для садкоў абгароджаных — 80—110 сантымэтраў.

Набываць шчапы трэба толькі з тых пітомнікаў, якія самі гадуюць дзічкі для яблынь з праўдзівай лясной яблыні (pirus malus silvestris) ці пруніфоліі (malus prunifolia). Тыя-ж пітомнікі (школкі), якія купляюць гатовыя дзічкі, найчасьцей маюць дзічкі з насеньня садовага далікатных сартоў і дрэўцы зашчэпленыя на такіх падкладках лёгка паддаюцца розным хваробам або вымярзаюць. Хто мае доступ да дзічак, дык той няхай восеньню зьбірае сьпелыя плады лясной здаровай яблыні і йгрушы, вылушчывае з іх зярняты, ссыпае ў палатняныя мяшочкі і перахоўвуе іх у праveўным і немарозным месцы.

Садзіць дрэвы найлепш у квадрат, адно ад другога ня далей як 10 (дзесяць) мэтраў.

На аслону садоў проці вятроў і марозу найлепей ужываць з паўночнага боку ёлку, а з усіх другіх ба-

коў — ляшчыну, вішню, жоўтую сьліву з адросткаў карэньня.

Ігрушы, калі іх наагул садзіць, дык трэба памяшчаць іх з паўночнага боку. Гэта таму, што йгрушы высака растуць і калі іх пасадзіць з другіх бакоў, дык будуць заценіваць яблыні.

Пры канцы хачу дадаць, што ўдачы ў садоўніцтве дачакаецца толькі той, хто працу сваю любіць і хто не спадзяецца на тое, што праца сама сабой зробіцца.

Іван Сікора.

---

# Сад трэба таксама гнаіць

Аж прыкра прыпамінаць аб тым, што большасьць нашых уласьнікаў пладовых дрэваў бачыць гэтыя апошнія тады толькі, як на іх пакажыцца больш ці менш пладоў: яблыкаў, ігрушак і г. д. Ня хочуць аднак людзі зразумець, што плады гэтыя з нічога ня могуць завязацца, а тым больш дасьпець. Дзеля таго, каб ураджай у садку быў кожны год пэўным, трэба пладовыя дрэвы рэгулярна і што год гнаіць.

Угнаеньне — ня толькі саду, але і ўсякае іншае— мае за заданьне „падкарміць“ глебу чатырмя аснаўнымі сучасткамі, кожная з каторых мае сваё асобнае празначэньне. Гэтыя сучасткі наступныя: *азот, фосфар, паташ і вапна.* А з о т (N) падганяе перадусім рост самой расьліны ці дрэва. Надбытак азоту вызначаецца цёмназялёнай ахварбоўкай лісьця, а пладовае дрэва даўжэй расьце, не даючы пладоў. Ф о с ф а р (P), у процiўвагу азоту, змушае быццам дрэва выдаваць плады, пладзіць. П а т а ш (K) умацоўвае самое дрэва (расьліну), гартуе яго прад марозам, а пладом надае прыгажэйшы выгляд і адпаведны пладовы пах. Чым лягчэйшая зямля, тым бяднейшая бывае на паташ. Урэшце в а п н а (Ca) патрэба ўсякай расьліне ня гэтулькі можа як прадукт спажыўны, колькі як спосаб адпаведна прыгатаўляючы глебу (нэўтралізуе квасовасьць глебы, папраўляе ейную будову і г. д.).

Усе гэтыя сучасткі раз у большай, іншы раз у меншай меры знаходзяцца ў добра перагніўшым хляўным гнаі, або ў сьпелым кампосьце. Дзеля таго рэгулярнае

гнаеньне гэтымі гнаямі блізу поўнасьцю здавольвае гнойныя запатрэбаваньні расьліны.

Як само гнаеньне праводзіць? — Дрэва ўбірае ў сябе сілу пераважна пры помачы канцавых частак сваіх карэньняў. Дзеля таго і гною пад дрэва ня можна абкладаць цесна каля пня, але па акруглай лініі кароны (проці сукоў). Мала таго. Карэньні дрэва знаходзяцца глыбака пад зямлёю, дык і гной трэба класьці не наверх зямлі, а закапываць яго глыбей. Практычна гэта робіцца або пры помачы раўкоў кругом дрэва па лініі кароны, ці асобных ямак. Раўкі такія робяцца ўглыбку на 50 70 сантымэтраў (асьцярожна, каб не параніць карэньняў,) у іх кладзецца гной (але ня сьвежы), або сьпелы кампост і прыкрываецца зямлёй. Калі дрэвы пасаджаны радамі, дык равы капаюцца ня круглыя, а простыя і накрыж паміж дрэвамі. Вынік тойсамы: дрэва абкружана будзе ровам з 4 ох бакоў, а равы такія лягчэй выкапаць, бо да гэтага можна ўжыць глыбокай воркі канём.

Вельмі цэнная так-жа пад пладовыя дрэвы гнойная жыжка, або самая мача, ці ўрэшце разьведзены папалам з вадой чалавечы гной (прад тым перасыпаны сухой пакрышанай тарпавіной). Гэткую жыжку найлепш заліваць у загадзя выбраныя ямкі двойчы: раз — прад распусканьнем лістоў і другі – пасьля адцьвітаньня.

Попел з дрэва замяняе штучныя ўгнаеньні паташовыя: закапываецца ў ямкі ці барозны.

Там аднак, дзе гэтых натуральных гнаёў не хапае, там трэба ўжыць гнаёў гэтак званых штучных, з каторых кожны мае ў сабе з пералічаных пераважна адзін толькі гнойны складнік. Гнаеньне саду штучнымі гнаямі аплачываецца нават сягоньня. Толькі застасаваньне гэтых гнаёў ня так простае: даючы адзін з іх, трэба даваць і іншыя, бо йнакш можна напр. празмерным гнаеньнем азотнымі гнаямі спазьніць пладаноснасьць дрэва і аслабіць яго адпорнасьць проціў марозу, або фосфарнымі—занадта гэту пладаноснасьць прысьпяшыць і г. д.

Што датыча застасаваньня ў садзе гнаёў штучных, дык спаміж розных прабаваных мяшанак найпрасьцейшай здаецца быць настуная: па 4 кілё супэрфосфату (вясной), або тамасоўкі (ўвосені) і 40 прац. паташавай солі—на кожныя 100 квадр. мэтраў сярэдне ўзросшага саду. Гнаі гэтыя з сабой перамешваюцца, зараз-жа засяваюцца і прыкрываюцца (лапатай, або плугам). Калі дрэва расьце слаба, дык патрэбна яму таксама і ўгнаеньне азотам: даецца йшчэ 4 кілё чылійскай салетры, азотняку ці якога іншага азотнага ўгнаеньня. Толькі салетру ня можна глыбака прыкрываць.

Другой асаблівасьцяй салетры ёсьць тое, што даваць яе трэба толькі вясной і раньнім летам, калі дрэвы пакрыты лісьцём. Улетку (ад м-ца ліпня) гнаеньне азотнымі штучнымі навозамі трэба ўстрымаць, бо гэта без патрэбы ўзмацняе толькі рост дрэва і спазьняе ягоную пладаноснасьць; гнаеньне-ж азотам увосені падстаўляе дрэва пад небясьпеку вымярзаньня. Але васеньняе гнаеньне дрэваў гнаямі фосфарнымі і паташовымі вельмі карысна.

Пад дрэва з пладамі кастковымі (сьлівы, вішні, чарэшні) трэба дадаваць вапны разлёсаванай на парашок, лічачы па 300 грамаў на 1 кв. мэтр.

В. Р.